



# БТ – МОЙ ЛЁС

**Развагі з нагоды заснавання**

**Другой нацыянальнай тэлевізійнай праграмы**

Поспех, аўтарытэт як першай нацыянальнай праграмы, гэтак і другой залежыць ад набору кадраў. Якія будуць кадры, такая будзе і тэлевізія. На тэлевізіі павінны працаваць вядомыя, аўтарытэтныя людзі. Толькі яны здольныя ствараць цікавыя пграграмы. Таму адна з нашых прапаноў – як першую, гэтак і другую нацыянальную праграму трэба ўмацаваць кадрамі апантаных літаратараў – маладога і сярэдняга пакалення, якія да самазабыцця любяць сваю краіну, свой народ. Калі гэтая ўмова не будзе ўлічана, беларуская тэлевізія ніколі не стане прывабнай для гледачоў.

Хацелася б, каб нашы тэлевізійныя каналы сталіся больш асветныя, каб усе пласты нашага жыцця знайшлі сваё адлюстраванне на экране.

Абавязкова павінна быць гумарыстычная праграма. Народ, які не спявае і не смяецца, гэта ўжо нежывы народ, ці яго выстаўляюць за нежывога, а кірніна чыноўнікі, якія кіруюць народам, не разумеюць гэтага, як акамянелыя муміі. Ці выдаюць сябе за такіх, ці наўмысна прыкідваюцца такімі.

Нашы тэлевізійныя каналы павінны, як мага больш поўна, паказваць і расказваць пра сваіх творчых людзей, шукаць і адкрываць іх народу. Пакуль жа практыка зусім іншая: запрашаюць зорак з Масквы і на іхнім фоне здабываюць танны аўтарытэт. А мы тых зорак можам глядзець бясконца і з маскоўскіх каналаў.

Далей. Хацелася б, каб асабліва пільна складаліся тэлевізійныя праграмы выхадных, нячынных дзён – суботы і нядзелі. Каб у гэтыя дні расказвалася і паказвалася самае адметнае з Беларусі і пра Беларусь.

Хацелася б, каб і з першага і з другога канала стала гучала родная мова, а не гэтак, як зараз, - калі-нікалі, гады ў рады.

Кажуць, новае – гэта забытае старое. Прапануем на экране практыкаваць паказ фондавых праграм. Прыгадваюцца такія праграмы, як, скажам, "На прызбе", "Вячоркі".... Яны давалі магчымасць убачыць на экране простыя беларускія людзі. Цяпер жа такой мажлівасці мы не маем. Ды і гэтыя простыя людзі пазбавіўся ўсялякай магчымасці трапіць на экран.

Пажадана, каб другі канал быў больш дэмакратычны, народны.

... Ствараецца другі тэлевізійны канал. Гэта добра. Але не зразумела навошта: яшчэ і першы як след не асвоены, пусты, як парожняя бочка. А тым часам усе пласты народнага жыцця ляжаць аблогаю.

І хіба апошняе: другі тэлевізійны канал будзе такі, які будзе яго кіраўнік. Адно, калі скажам, за кіраўніка другога канала прызначыць Леаніда Дранько-Майсюка. Зусім гэты канал будзе іншы, калі кіраваць прызначаць скажам, сп. Мялешку ці кагосьці з ягонага племя. Даўнішняе кіраўніцтва вельмі дбала, каб на пасады кіраўнікоў радыё і тэлебачання прызначаліся аўтарытэтныя людзі, паважаныя, дасведчыя, а не гэтак, як зараз.

*Уладзімір Содаль.*

# Глабальнае ліставанне ТБМ з уладамі

***Шаноўныя чытачы!***

***Праз "Наша слова" мы паведамлялі, што кіраўніцтва ТБМ звярталася да старшыняў абласных выканкамаў з сваімі прапановамі па выкананні Пастановы Мінадукацыі Беларусі "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі". Таварыства і цяпер працягвае ліставанне з мясцовымі, гарадскімі і раённымі ўладамі. У кожны раённы цэнтр даслаецца ліст наступнага зместу.***

***(Дадаём узор)***

***Кіраўніцтва ТБМ удзячнае сваім структурам, якія звярнуліся да загадчыкаў раённых аддзелаў адукацыі з запытамі і прапановамі канкрэтнай дапамогі ў выкананні гэтай важнай дзяржаўнай Пастановы і даслалі нам справаздачы аб сваёй працы.***

*Ірына Ляксеева.*

1 красавіка 2002 г. №____

**Спадару Кудрыку В.Б.**
**Старшыні Ашмянскага райвыканкама**
**вул. Савецкая, Ашмяны, райвыканкам**
**Гродзенская вобласць, 231100**

Паважаны Вітольд Браніслававіч!

Мы спадзяемся, што Вы як адказны дзяржаўны чыноўнік прыхільна ставіцеся да беларускай мовы і, гэтак сама, як і ТБМ, прыкладаеце намаганні па наданні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай.

У сувязі з гэтым нас цікавіць, якая праца пад Вашым кіраўніцтвам вядзецца па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" № 48 ад 27.08.2001 года. Просім даслаць нам звесткі пра колькасць беларускамоўных і рускамоўных школ і класаў у Вашым раёне ў гарадской мясцовасці. Таксама паведаміце, калі ласка, якім школам (згодна з арт. III.1. Пастановы) з наступнага навучальнага года будзе нададзены статус беларускамоўных.

**Дадатак на 1 аркушы:**

1. Копія "Праграмы дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі".
2. Копія Главы 3 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.**

*На сёння такія лісты на адрас старшыняў гарвыканкамаў або загадчыкаў аддзелаў адукацыі адпраўлены ўжо больш чым у 80 раёнаў. За красавік месяц іх павінны атрымаць раённыя і гарадскія адміністрацыі па ўсёй Беларусі.*

# Першыя крокі ў свет публіцыстыкі каледжскага "Весніка..."

Па ініцыятыве адміністрацыі Менскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1 свет убачыў першы нумар газеты "Веснік педкаледжа". Першы нумар выйшаў у колькасці 299 асобнікаў, якія з'явіліся ў руках навучэнцаў каледжа, як прыемная нечаканасць. Газета створана з мэтай расказаць аб культурнай дзейнасці навучэнцаў розных груп; выкладчыкі змясцілі разнастайныя карысныя парады, як навуковага, так і жыццёвага характару і многае іншае. Рэдактар газеты Чэчат А. В. стараўся "аздобіць" газету самымі цікавымі звесткамі, якія на яго погляд, патрэбны навучэнцу педагагічнай установы.

Хацелася б болей падрабязна "прайсціся" па старонках "Весніка...". На першай старонцы газеты мы адразу бачым артыкул пад назвай "Смялей ў XXI ст." і фотаздымак парад-нага ўваходу ў каледж. Аўтарам гэтага артыкула з'яўляецца ніхто іншы, як дырэктар каледжа Меньшчыкава Н. І.. Яна даволі падрабязна расказала аб тым, што ўяўляе сабой гэтая ўстанова, якія спецыяльнасці прадстаўлены ў ёй, таксама паведаміла аб аб'яднаннях культурнай, спартыўнай і літаратурнай дзейнасці каледжа, выдзеліла з кола выкладчыцкага складу самых таленавітых, коратка ахарактарызавала іх, і нарэшце, пералічыла прыярытэтныя кірункі, над якімі зараз працуе метадычны калектыў.

Прыцягвае ўвагу рубрыка "Слова пра каледж", якая паведамляе чытачам аб асноўных мэтах, задачах і спосабах вырашэння гэтых задач газеты.

Аднак самае неабходнае, што спатрэбіцца і ў час вучобы і ў час працы – гэта метадычная парада, веданне методыкі выкладання свайго прадмета, таму загадчык метадычнага кабінета каледжа Дзесяцік С.У. дзеліцца досведам у рубрыцы "Метадычная вучоба".

Самай яркай і цікавай старонкай газеты сталася рубрыка "Паэтычная старонка "Маладзічка". Кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Маладзічок", навучэнка 401 групы беларускага аддзялення Канановіч Ганна расказала ў сваім артыкуле "Слова пра "Маладзічок" аб узнікненні аб'яднання, аб тэмах творчасці навучэнцаў, аб шырыні разгорнутай працы. Размах дзейнасці з гадамі стаў настолькі вялікі, што давялося ад "Маладзічка" аддзяліць "Раду журналістаў", якая ўваходзіла ў склад "Маладзічка". На той жа старонцы ў першым нумары "Маладзічок" прадставіў паэтычную творчасць былых маладзічкоўцаў – выпускнікоў каледжа. Дарэчы, тут трэба падзякаваць усяму беларускаму аддзяленню, на якім яшчэ трымаецца паэтычная тэматыка творчасці, а галоўнае – гучыць родная мова.

"У дапамогу навучэнцу-практыканту" – так называецца раздзел, прысвечаны правілам праходжання педагагічнай практыкі ў школе. Гэты матэрыял падрыхтавала намеснік дырэктара каледжа па выхаваўчай працы Ісачэнка Л.М.

Зноў –такі трэба ўспомніць нашае славутае аддзяленне выкладання беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе, якія з'яўляюцца заўсёды першымі гасцямі на разнастайных вечарынах, прэзентацыях, экскурсіях, тым самым павышаючы свой прафесійны ўзровень і веды. Вось аб гэтым Яўген Белавокі, Андрэй Грыгаровіч і Яўгенія Шумская – усе навучэнцы 301 групы і расказваюць у рубрыцы "Вечарыны, прэзентацыі, экскурсіі". Свае наведванні яны апісваюць у артыкулах, якія потым дасылаюць у перыядычныя выданні.

І апошняя старонка ўключае ў сябе тры невялічкія рубрыкі: "Звесткі з бібліятэкі", "Свет нашых захапленняў" і "Спартыўныя навіны", у якіх можна прачытаць аб "новай" кнізе што з'явілася ў бібліятэцы, можна змясціць матэрыял аб сваіх інтарэсах, хобі, а таксама пераканацца, што педагогі – гэта таксама спарцсмены.

Напаследак хацелася б падзякаваць адміністрацыі і выкладчыкам каледжа за падтрымку ў стварэнні газеты, а таксама беларускаму аддзяленню, якое прыняло актыўны ўдзел у працы над характарам і зместам газеты. У добры шлях табе, "Веснік педкаледжа"!

*Андрэй Грыгаровіч,*
*навучэнец Менскага*
*дзяржаўнага*
*педкаледжа № 1.*

# "Суматоха" ў БДУК

3-га красавіка студэнты і выкладчыкі БДУ культуры адправіліся на канцэрт "Суматоха" ў Дзяржаўны моладзевы тэатр эстрады, які зусім нядаўна перайшоў пад уладу гэтага ж універсітэта.

Разам з тым у прамежках канцэрту гучалі віншаванні Генадзю Сяргеевічу Мішураву, з нагоды 50-цігоддзя творчай дзейнасці. Прафесар кафедры народна-інструментальнай творчасці БДУ культуры скончыў аспірантуру і абараніў кандыдацкую дысертацыю, працаваў загадчыкам кафедраў народных інструментаў, аркестровага дырыжавання, народна-інструментальнай творчасці на працягу 25 гадоў. З'яўляецца кіраўніком ансамбля "Беларускія ўзоры".

Праграму вялі Вольга Руткоўская і Валеры Мароз, якія час ад часу запрашалі на сцэну ахвотных павіншаваць юбіляра, сярод якіх былі дэканы факультэтаў, прарэктар па выкаанаўчай рабоце сп. Смолік, загадчыца кафедры, калегі, вучні спадара Мішурова і іншыя.

Вядоўцы па чарзе запрашалі на сцэну ансамбль народнай музыкі "Вянок" СШ № 115, ансамбль "Беларускія ўзоры", выступалі студэнты БДУ культуры: І. Грамовіч, С. Казарэвіч. Амаль усё, што чулася са сцэны было прасякнута беларускасцю, любоўю да роднага, прыгожага, мілагучнага. І музыка і спевы і атмасфера будзілі ў прысутных нешта цёплае і прыемнае. Сцэнар і рэжысура канцэрта В. Мароза, гук – А. Тарапаньча, святло – Э. і А. Клюевых.

*І. Секяржыцкая.*

# Выстава ў Палацы мастацтваў

4-га красавіка ў Палацы мастацтваў адкрылася чарговая выстава. Але, на гэты раз гэта ўжо не працы замежных творцаў, а нашых мастакоў Л. М. Дробава і П.П. Шарыпы.

Пасля кароткага агляду твораў прайшло афіцыйнае адкрыццё, якое распачаў старшыня Саюза мастакоў – Ул. Басалыга словамі пра прызначэнне мастака, яго жыццёвае крэда. Распавёў прысутным: мастакам, сябрам, блізкім людзям аўтарам выставы і іншым, што нягледзячы на тое, што мастакі пражылі частку свайго жыцця ў 20 ст., яны ўсё ж змаглі намоцна ўкласці свае душэўныя якасці ў гэтыя цудоўныя карціны. Работы творцаў напісаны на розныя тэмы: тут ёсць і зварот да роднай зямлі, прыгажосці прыроды і іншае; розныя і па выкананні. Спадар Уладзімір узнагародзіў П. Шарыгу медалём за дасягненне ў Сусветным мастацтве.

Наступным выступоўцам быў І. Лойка – старшыня секцыі жывапісу. Ён выказаў свае віншаванні стваральнікам, мэтрам мастацтва, цудоўным жывапісцам. Коратка прааналізаваў выставу, якая на яго думку невялікая, але вельмі ёмкая. Хоць Л. М. Дробаў і мае амаль усе узнагароды, але ўсё ж бюро секцыі вылучыла яго на атрыманне дзяржаўнага медаля Ф. Скарыны за тое, што чалавек усяго сябе аддае жывапісу.

Затым слова атрымаў старшыня суполкі "Пагоня" М. Купала, які заўважыў, што дрэнных выстаў не бывае, а гэтая надзвычай ўнікальная. З яго слоў усе даведаліся, што Пётр Пятровіч удзельнік суполкі "Пагоня", аддаў усяго сябе жывапісу і школе – навучанню дзетак выяўленчаму мастацтву. У яго працах удала спалучаюцца кампаненты рознага жывапісу. Ён зрабіў найвялікшы ўнёсак у культурную скарбонку.

Потым выказаўся і сам мастак Лявон Міканоравіч Дробаў з падзякай усім, хто здолеў прыйсці ў гэтую залу. Расказаў аб сваім прызначэнні ў мастацтве, якое існуе ў 2-ух іпастасях: 1-ая – мастак – жывапісец, 2-ая – мастацтвазнаўства.

З яго вуснаў прагучала падзяка Л. Кобатаву за экспазіцыю выставы, выкладчыкам: Ахрэмчыку, Мазалёву, Ліўшыцу.

У адкрыцці прымаў удзел і мастак Р. Сітніца, які намаляваў партрэт юбіляраў, што атрымаўся вельмі ўдалы і дакладны. Не забыўся мастак і пра вучняў П. Шарыпы, якія вылучаюцца сваёй непаўторнасцю сярод іншых.

Ну, а напрыканцы, падзяку прысутным і віншаванне Л. Дробаву выказаў і спадар П. Шарыпа. Таксама ён выказаў удзячнасць В. Шчарбовічу, сябрам па інстытуту, адміністрацыі школы, дзе набіраюць дзетак ў 5-ы клас і выпускаюць у Акадэмію мастацтваў. Асноўнай тэмай творчасці П. Шарыпы з'яўляецца любоў да Радзімы, якая прасочваецца ў многіх яго работах "Палессе. Возера 1972", "Вясна-2001", "Ружы 1997" і ў іншых.

*І. Секяржыцкая.*

Алесь Петрашкевіч

# Час усё адкрые...

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

VI

*Даволі вялікая чыстая палавіна сялянскай хаты,— лаўкі, ложак, стол, абразы на покуці. За сталом, пры свечках, у паходнай вопратцы нешта піша Януш Р а д з і в і л. У хату ціха ўваходзяць Р а д з і в і л Б а г у с л а ў у дарожнай вопратцы і Юры Т ы ш к е в і ч — у біскупскай. Януш Радзівіл іх не бачыць. Багуслаў наўмысна пакашлівае.*

**Р а д з і в і л** *(адрываецца ад паперы, углядаецца ў змрок хаты).* Ойча Юры?! *(Устае.)* Брат Багуслаў?! Не веру вачам сваім... Якім духам?! І як можна лезці ў пастку, у якой я апынуўся. Вакол — маскалі!..

**Р а д з і в і л Б а г у с л а ў.** У пастцы, а як бачым — нічога...

**Р а д з і в і л** *(перапыняе).* То-я! А вам не раіў бы. Налёту можна чакаць у любую хвіліну.

**Т ы ш к е в і ч.** Не бойся, сын мой. Багуслаў прывёў табе 200 драгунаў. А я сваімі вачыма хацеў пабачыць, як ты тут.

**Р а д з і в і л** *(радасна).* Дарагі ойча, дзякуй за цікаўнасць. *(Абдымае біскупа).* А табе, брат,— за 200 драгунаў. *(Абдымае Багуслава.)* Цяпер мы абавязкова растаўчэм маскалёў у пыл. Пад рукой у цара іх толькі 315 тысяч, а патрыярх Нікан пахваляецца, што цар павёў на Вялікае княства аж 700 тысяч барацьбітоў супраць няверных за веру праведную, праваслаўную. Ды яшчэ казацкі загон у 20 тысяч шабель. У мяне ж ад усяго Княства з двума сотнямі драгунаў цяпер будзе аж 11 тысяч пяцьсот ваяроў ды столькі ж у гетмана Гансеўскага.

**Р а д з і в і л Б а г у с л а ў.** Сумна жартуеш, Януш...

**Т ы ш к е в і ч** *(спачувальна).* Як жа ты ўпраўляешся тут, сын мой? Дружа мой!

**Р а д з і в і л** *(сур'ёзна).* Калі праўду сказаць, то ледзьве маю часу паесці або малітву замовіць. Дарэчы, загадаю сваім карміцелям-паіцелям, каб прыгатавалі вячэру. А вы сядайце з дарогі. *(Выходзіць да дзверы).*

*Радзівіл Багуслаў і Тышкевіч аглядаюць хату, асвойваюцца, сядаецца да стала. Вяртаецца Я н у ш.*

І яшчэ, любыя мае, гняце мяне ўсведамленне-адчуванне, што ніякі гераізм і самаахвярнасць ваяроў маіх не здольныя зрабіць тое, што вышэй за чалавечыя магчымасці. Я сказаў пра 11 тысяч. Дык гэта тыя тысячы, што былі, а засталося іх, жывых не больш паловы. (Некаторы час задуманным ходзіць па пакоі.) Становішча ўскладнілася са смерцю вялікага гетмана Януша Кішкі. Ад сябе ўніверсал выдаў аб зборы ў Княстве войска і паспалітага рушэння. Спрабаваў казакоў ад Масквы на свой бок перацягнуць. Не ўдалося. Хмяльніцкі адаслаў граматы мае цару і ліслівa зазначыў: "Яны ўвесь гонар богададзены тваёй царскай вялікасці памяншаюць і ганьбяць і на тваю царскую вялікасць варагуюць усеканечна". Лізаблюдствам халопа маскалі і выхваляюцца.

**Р а д з і в і л Б а г у с л а ў.** Сабака! Запраданец!..

**Т ы ш к е в і ч.** Не тыя словы, сын мой, якімі можна было б вызначыць усю гнюсоту гэтага вурдалака і нелюдзя.

**Р а д з і в і л.** Як справіцца з такімі жорсткімі да жахлівасці сіламі? Бог лепей ведае пакольки апроч майго маленькага войска ды невялічкіх залогаў у гарадах, няма нікога ні з паноў, ні з шляхты, якіх раней лічылася тысячамі. А гетман Гансеўскі мне больш паскудзіць, чым дапамагае... Адзін без усялякай дапамогі трываю цяперашнюю бяду і ўжо шэсць тыдняў разам з залогамі трымаю такога моцнага непрыяцеля з Полацкага, Віцебскага, Смаленскага ды Мсціслаўскага кірункаў, змінаючы намерам ворага, аднак біць і разбіваць яго не магу. Вытрымаць далей з такімі малымі сіламі не ў стане, а таму чакаю аднаго з двух: ці я кіну сваё войска ў відавочную небяспеку паразы, або да нас на падмогу павінна спяшацца ўся Рэч Паспалітая. Інакш усімі лепшымі землямі, якія знаходзяцца амаль пасярод Княства, завалодае непрыяцель.

**Р а д з і в і л Б а г у с л а ў** *(ускоквае з лаўкі).* А кароль?! Што думае?! Што робіць кароль?!

**Р а д з і в і л.** Кароль загадвае не ўступаць у бой, не рызыкаваць. Радзівіл — вар'ят! Радзівіл занадта самалюбівы! Відаць, ён хоча, каб Радзівіл толькі бегаў за Гансеўскім, які толькі і робіць, што ўцякае ад небяспекі.

**Т ы ш к е в і ч.** Асцярожнасць і бяспека нікому не шкодзіць, сын мой.

**Р а д з і в і л.** Канечне, для чалавека разважлівага, а тым больш, баязлівага стаць на дарозе такой сілы — вар'яцтва, але ж не для Радзівілаў. Самалюбівы... Але ганьба Айчыны — гэта ганьба і Радзівілам! І я змагаюся, хаця і ведаю сваю асуджанасць на паражэнне. Трэба ж падаць хоць нейкі прыклад самаахвярнасці для тых тысячаў шляхціцаў і паноў, што забіліся па норах і выдалі сваю Маці-Айчыну ворагу! Самалюбівы... Ну, вядома ж, самалюбівы — гэта любоў да сваёй годнасці і высокароднасці, якія не дазваляюць мне абняславіць сябе і ўсіх Радзівілаў палахлівасцю, калі справа ідзе аб жыцці і смерці Бацькаўшчыны, ўсяго людства Вялікага княства!

Даруй, брат, даруй ойча, я не скарджуся, не жалюся і, тым больш, не выхваляюся. Але ж чалавеку часам дужа трэба проста выгаварыцца.

**Т ы ш к е в і ч.** Дарагі Януш, мне трэба было самому пачуць усё гэта ад цябе асабіста, раней, чым сустрэнуся з каралём.

**Р а д з і в і л.** Сутрэнешся, ойча, перакажы яму пераможныя рэляцыі маскоўскіх ваяводаў свайму цару. Іх многія дзесяткі. Яны імі пахваляюцца, як сведкамі сваіх подзвігаў: "У Друі літоўскіх людзей пабілі і двары і касцёлы папалілі", "У Глыбокім людзей пабілі", "У Чачэрску супраціўных мячу аддалі", "У Мсціслаўе сяклі ад сэрца, сяклі ў пень і ўсіх высеклі". Разбураюць і рабуюць азіяты не толькі касцёлы і клештары каталіцкія, але і праваслаўныя не мінаюць. У Воршы Куценскую друкарню разрабавалі і знішчылі. Загады цара нялюдскія: "Пабіваць, колькі міласэрдны Бог памачы падасць", "непакорлівыя гарады спаліць", "непаслухмяных пасеч", "жыдам не быць", "уніятам не быць", "майстроў вывесці ў палон". Нават норму палону устанавіў — 300 тысяч чалавек. Толькі з Смаленскага, Віцебскага і Мсціслаўскага ваяводстваў маскавіты ўжо вывелі ў няволю больш за 100 тысяч няшчасных. Верхаводы маскальскіх аддзелаў па сем-восем нявольнікаў, у тым ліку маладзенькіх дзяўчат і юнакоў, за рубель перапрадаюць адзін другому. Праўда і месцічы, і сяляне пераконвацца пачалі, каго прывёў на іх зямлю не "тишайший" вызваліцель, а крывавы азіят-забойца і рабаўнік.

**Т ы ш к е в і ч.** Крый пан Бог, што робіцца. Да віленскага біскупства даходзяць чуткі, што многія загады нялюдскія патрыярх Нікан, як сам цар, аддае, Бога забыўшы.

**Р а д з і в і л Б а г у с л а ў.** Не смейся, брат, з маіх двухсот драгунаў. А я цяпер ведаю, колькі табе ваяроў патрэбна. Толькі ты сябе беражы!..

**Р а д з і в і л.** Ды ўжо берагуся, на Бога спадзяючыся, але адпачынку даўно не ведаю, увесь час на нагах ці ў сядле. І так быў аслабеў — аж сорам,— што аднойчы не змог узлезці на каня. Даруйце, я да кухара. *(Выходзіць).*

**Т ы ш к е в і ч.** Да караля, Багуслаў! І — разам. Пакуль яшчэ не позна...

*Сцэна зацямняецца.*

VII

*Каралеўская палата. Я н К а з і м і р на пасадзе, а перад ім — Януш Р а д з і в і л, Р а д з і в і л Б а г у с л а ў, Юры Т ы ш к е в і ч, Мікалай П а т о ц к і, Вінцэнт Г а н с е ў с к і.*

**Я н К а з і м і р** *(вельмі ўзбуджана).* Неверагодныя паразы! Ганебнае адступленне да Дняпра, Друці, нарэшце, Бярэзіны! Здадзены Мсціслаў, Рэчыца, Жлобін, Рагачоў, Стрэшын, Горвель, Друя, Чачэрск, Крычаў, Полацк, Горы, Гомель! І ворага спыняе не ваярскае майстэрства гетмана найвышэйшага, а зіма. Ты разумееш, гетман найвышэйшы, што чакае цябе за ўсё гэта?!

**Р а д з і в і л.** Няхай Бог судзіць тых, хто выдаў нас на мясныя яткі, і як дурань сядзеў на грашах, выдзеленых дзяржавай на вайну. *(Глядзіць на Гансеўскага.)* Але адкрыюцца калі-небудзь людскія вочы... А у тое, што пан Бог яшчэ дасць нам сваё, маю моцную надзею. Біўся, прайграў,— звычайна тое; не ўцякаў як іншыя пад Піляўцамі, не выкупляў сябе, як пад Зборавам, не выпрошваў сябе, як пад Берасцечкам, чаго не пазбегла і твая каралеўская вялікасць.

**Г а н с е ў с к і** *(абурана).* Гэта ўжо пераходзіць усякія межы! Ён абвінавачвае самога караля!

**Р а д з і в і л.** Я яшчэ абвінавачваю цябе, гетман польны!

**Я н К а з і м і р.** Ты, князь Радзівіл, не аддаеш сабе справаздачы ў тым, што толькі за гэтую абразу караля і яго гетманаў я загадаю павесіць цябе на браме каралеўскага палаца.

**Р а д з і в і л** *(спакойна).* Не пасмееш, бо без мяне і Вялікага княства цар Аляксей Міхайлавіч пад лета наступнага года будзе не толькі ў Вільні, але ў Варшаве і Кракаве.

**Я н К а з і м і р** *(разводзіць рукамі, апелюе да прысутных).* І гэтага чалавека я прызначыў гетманам найвышэйшым?! Даверыў вялікую каралеўскую булаву...

**Р а д з і в і л.** Ты, слаўны кароль, яшчэ прызначыў мне польным гетманам майго даўняга непрыяцеля падскарбія Гансеўскага, да якога я трапіў у залежнасць, бо падскарбі валодае скарбам майго войска і траціць яе так, як Бог на душу грэшніку пакладзе. Ваша каралеўская светласць заклала нязгоду і нават варожасць паміж першымі водцамі вялікакняскага войска. А я хацеў бы мець у памочніках не каралеўскага халуя, а таго, каму можна даверыць не толькі скарб войска, але і лёс Вялікага княства!

**Г а н с е ў с к і** *(істэрычна, ухапіўшыся за шаблю, але не выцягваючы яе з похвы).* Паклёпнік! Баязлівец! Здраднік!

*Радзівіл ва ўсплеску гневу выхоплівае шаблю і кідаецца да Гансеўскага. Паміж імі паспявае стаць Тышкевіч. Шабля Радзівіла апускаецца на масіўны ланцуг нагруднага крыжа біскупа, саслізгвае і раніць руку Гансеўскага, які паспявае выхапіць сваю шаблю. Патоцкі і Радзівіл Багуслаў імгненна падхопліваюць пад рукі Гансеўскага і выводзяць з палаты. Радзівіл падымае шаблю Гансеўскага і з размаху ўганяе яе ў падлогу.*

**Я н К а з і м і р** *(зусім спакойна).* Можа ты, шаноўны біскуп і мяне сабой прыкрыеш ад вар'ята ў чыне гетмана найвышэйшага?..

**Р а д з і в і л** *(апускае шаблю ў похву).* Даруйце мне, яснавяльможны кароль і святы ойча. Не змог сцярпець абразы ад таго, каго не раз ратаваў ад смерці.

**Т ы ш к е в і ч.** Пан Бог даруе грэшнаму, калі кароль не пойдзе супраць пана Бога.

**Я н К а з і м і р.** На гэты, можа, апошні раз, кароль сцерпіць, але хоча ведаць, што ты, вялікі гетман, мусіш сказаць каралю на развітанне. Вораг на Бярэзіне, а не за Дняпром...

**Р а д з і в і л.** Толькі пра сваю "баязлівасць" і "здраду" Польшчы і сваёй Айчыне — Вялікаму княству. І няхай яснавяльможны кароль не перапыняе маю споведзь... пасля абяцання вісельні на браме.

**Я н К а з і м і р.** Гэта сапраўды цікава пры такім сведку, як шаноўны біскуп віленскі. Прысядзьце, святы ойча. Я абяцаю гетману найвышэйшаму споведзь не перапыняць, а ў сойме ён, кажуць спавядаўся больш за чатыры гадзіны.

*Тышкевіч сядаецца ў крэсла.*

**Р а д з і в і л.** Празарлівыя людзі, нават з каралеўскага атачэння, бачаць, што яго вялікасць кароль сваімі падазрэннямі і варожасцю да Януша Радзівіла сам штурхае яго да здрады. Дык каб кароль не слухаў, а лепш бы не верыў навушнікам накшталт польнага гетмана Гансеўскага, я пры найвышэйшай духоўнай асобе Княства заяўляю, што ў абставінах, якія склаліся з прычыны наступу маскоўскай арды, здрада Польшчы і яе каралю — гэта здрада і свайму Вялікаму княству. Ці ж Радзівілы здатныя на гэтакую подласць, калі не толькі Каралеўства, але найперш Княства ў смяртэльнай небяспецы. Дык рассудзіце ж шаноўныя кароль і біскуп ці ёсць мая здрада і баязлівасць у тым, што толькі пры маёй дапамозе і помачы шасцітысячнае Смаленскае войска больш за чатыры месяцы трымае абарону супраць сарака тысяч маскавітаў. Перадавыя маскальскія аддзелы адчулі на сабе сапраўдныя нашы ўдары. Толькі адзін харунжы са сваімі жаўнерамі разграміў пад Смаленскам два палкі маскавітаў. А мой начны налёт абышоўся ім яшчэ ў тысячу галоў. А пад Воршай давялося зрэзацца з 15-тысячнай рацціяй ваяводы Трубяцкога. Вораг стаяў у шасці мілях ад горада. Спазніся я на адзін дзень, дык замест свайго лагера застаў бы попел. Выведнікі данеслі, што маскавітаў пад Воршай каля сарака тысяч. Хто параіць, што рабіць? Разарваць свае 4 тысячы на кавалкі і бараніць адразу дзесяткі гарадоў? Ці абараняць княства хоць на галоўным кірунку ворага. Адна надзея была на пана Бога. Хай выратуе ён нас сам! Аддам належнае і польнаму гетману Гансеўскаму. Ён нарэшце напаў на лагер Чаркаскага і прынёс маскавітам значныя страты, а я з баямі адступіў ад Воршы і замацаваўся каля Копысі. Меркаваў у выпадку аблогі Магілёва, дапамагчы гораду, ды сам апынуўся ў аблозе. Вырваўшыся, ўшыхтаваў сваё шэрагі паміж двума глыбокімі ярамі, дзе напачатку затаіўся з конніцай. Пяць гадзін кіпеў бой. Калі ўжо не было сілы і заставалася ці памерці, ці перамагчы, павёў сваю конніцу. Вораг пабег. Толькі на гадзіну спазніўся ваявода Трубяцкі, але напужаны разгромам Чаркаскага загадаў свайму войску перапраўляцца цераз Дняпро, якім высокавяльможны кароль так балюча папракнуў мяне. У маскавітаў загінула болей за тры тысячы чалавек, 610 я ўзяў у палон, многіх забрала дно Дняпра.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 04. 2002 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 702.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.